# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

№ 16

ЖНІВЕНЬ






УБОРКА ПАЧАЛАСЯ — КОМБАЙН

# Зьмест:

Анатоль Вольны
АГНІ НА БАЛОЦЕ
(нарыс)

Ул. Стэльмах
КРУШЭНЬНЕ РЭНЕГАТАЎ
(п'еса)

Алесь Пруднікаў
ПОСТАЦЬ ЗАЎТРАГА
(поэзія)

Марыя Кальтофэн
ПАДАРОЖЖА
(аповесьць)

зэп Зазека
КЛІН
(нарыс)

Максім Лужанін
ПРА НАШУ ПРОФЭСІЮ
(верш)

Ул. Эль
БАЛОТЫ ДЫМЯЦЬ
(нарыс)

Зіна Кагановіч
ПЕСЬНЯ І ТОРФ
(верш)

КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

ШАХМАТЫ




Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

№ 16

ЖНІВЕНЬ 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59, ТЭЛЕФОН 17-09





БССР Аршанскі мясны комбінат

На здымку плавільная печ дацкага тыпу для апалкі бэкону

МЭХАНІЗУЕМ МЯСАПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ



**Салікамск. Калійны руднік. 1.000.000 тон удабрэньня на соцыялістычныя палі.**

# АГНІ НА БАЛОЦЕ

НАРЫС
АНАТОЛІЯ ВОЛЬНАГА

Я—адзін... І здаецца на гэтым бязьмежным балоце больш нікога жывога няма.

Вільготным пахам дыхае на мяне балота, і мне, звыкламу да перадыханага паветра гораду, неяк радасна ад гэтай сьвежасьці.

Побач са мною, крыху вышэй, нешта ласкава грукоча і прабягае ў паветры.

Я ведаю, што гэта ваганеткі падвеснае дарогі, якія праз 7 кілёмэтраў балот і лясоў цягнуць торф для Добрускай папярсвай фабрыкі.

Ваганеткі стогнуць, войкаюць, падымаючыся перад слупамі, і з вясёлым радасным сьмехам мінаюць слупы.

І здаецца, што гэтаю ноччу, сярод гэтых лясоў і балот, яны гэтыя жалезныя ваганеткі, перагаварваюцца паміж сабою. Зусім яны—як жывыя.

Не здарма-ж я, жывы чалавек, у гэтую цемру, каб ня зьбіцца са шляху, іду, прыслухоўваючыся да рокату ваганеткі.

Я ведаю,—яны ня зблудзяць у гэтай цемры і сьмела крочу за імі на пагрузачную

Пагрузачная,—гэта тое мейсца, дзе сьцішаюць ход ваганеткі, потым павольна спускаюцца на балоты і ўжо напоўненыя торфам зноў накіроўваюцца назад.

---

Ноч на балоце...

Недзе павінны кружыцца д'яблы, вадзянікі, лясуны.

Воўкалак павінен поўзаць...

Я ўспамінаю аб гэтай барахольнай „романтыцы" мінулага і ўсьміхаюся.

... І рамантыкі прыгожай „за Мікалаем" не маглі стварыць..

Грухоча над балотам падвесная дарога,—ва ўсе бакі на самым балоце ляглі рэйкі,—забеглі ваганеткі,—гараць вялікія маторы над балотам,—пляскочуць гідра-тарфяныя машыны...

Вось гэта рамантыка. Наша рамантыка.

Падыходжу бліжэ да пагрузачнай.

Падвесная дарога канчаецца.

Недзе на балоце высока у неба крычыць полымя кастра.

Гэта мой бліжэйшы маяк.

Па кусінах, вырцую ў цемру,—на сьвятловогнішча. Паступова ў сьвятле вогнішча разьлічаю контуры цягніка.

Вогненныя палосы прабягаюць па чорным целе цягніка і ўздымаюцца высока над балотнаю далеччу.

Падходжу да вогнішча.

Схіліліся над цягнікам людзі, напруджаныя і клапатлівыя. Гэтак хірургі схіляюцца над хворым пад час складанай опэрацыі. І сапраўды, цягнік трэба ажывіць.

Мне заўсёды цягнік здаваўся жывою разумнаю істотай.

І зараз, калі ня чутно яго дужага парывістага дыханьня, калі ў грудзёх яго пагасла полымя, калі абнажаны яго нэрвы—дымагарныя трубы, калі ён стаіць гэтак нязьвыкла ціхі—мне шкода яго.

І я ведаю, што шкадуюць і тыя людзі, што схіліліся над ім.

І яны яго ажывяць.

Яны, заклапочаныя людзі, што схіліліся над цягніком.

Як і перад опэрацыйным сталом, тут ня чутно непатрэбных, не датычных да справы, слоў.

Толькі бразгачэньне жалеза, ды трэск кастра парушае начную цемру...

Я ведаю,—цягнік стаў а 9 гадзіне раніцы, значыць падвоз торфа спыніўся, значыць фабрыка пад пагрозаю спыненьня, а значыць а 10-й гадзіне раніцы гэтыя людзі схіліліся над паравозам.

Яны прыехалі з Добруша, каб ажывіць гэты паравоз.

Я вымаю гадзьньнік. Палова другой ночы.

Пятнаццаць з паловаю гадзін гэтыя людзі не адыходзяць ад цягніка для таго, каб яго ажывіць. Я стаю крыху водаль і пры сьвятле вогнішча бачу толькі сілуэты, што схіліліся над цягніком.

Мне хочацца падыйсьці бліжэй да гэтых людзей, пабачыць іх, пагутарыць з імі, але я баюся парушыць іх увагу да хвораға цягніка.

І я стаю маўклівы, як і яны, шкадую, што не магу дапамагчы ім. Бягуць хвіліны, ціхія, напружаныя.

І я раптам чую:

— Іван Нікіфаравіч. Пагледзеце, што тут зрабіць трэба...

Я ўглядзіўся ў цемру. Голас пачуўся аднекуль зьверху з-пад цягніковай трубы.

— Іду...—адказаў той, каго клікалі Іванам Нікіфаравічам і сьледам за ім я ўбачыў, як нейкі сілуэт выпаўз з-пад цягніка і пачаў узьбірацца некуды пад цягніковую трубу. Зноў маўклівая праца.

І бягуць хвіліны.

— Іван Нікіфаравіч. А мы з раніцы забыліся пашамаць!—аднекуль з паравозу чуецца зусім малады голас.

— ... А... так... і праўда...—успамінае Іван Нікіфаравіч і дадае:—Ну нічога, працуй, хлопцы. У мяне ёсьць дзьве бляшанкі консэрваў. Зараз падзелімся.

І сілуэт Івана Нікіфаравіча зьнікае ў кірунку да баракаў.

У бараках жывуць сэзоньнікі,—там пакінула свае рэчы брыгада рабочых, што прыехала на рамонт цягніка.

Праз хвілінку чую зноў голас Івана Нікіфаравіча:

— Хлопцы. А консэрвы нехта... забраў... Але нічога, хлопцы, мабыць той, хто забраў, таксама хацеў есьці.

І зноў цішыня... І зноў бягуць хвіліны...

Людзі з раніцы нічога ня елі—людзі забыліся пра гэта. Людзі з раніцы ня ведалі ні хвіліны адпачынку. Людзі забыліся пра гэта. Хто гэтыя людзі і хто гэты Іван Нікіфаравіч? І я думаю: трэба напісаць пра гэтых людзей, пра гэтых людзей, якія сапраўды аддаюць рэволюцыі свае сэрцы.

Трэба каб соцыялістычная бацькаўшчына ведала гэтых людзей.

---

Праз дваццаць шэсьць гадзін бязупыннай працы цягнік быў адрамантаваны.

Цяпер а 12-ай гадзіне дня, калі ярка сьвеціць сонца і праца скончана, я ўважліва разгаварыўся з Іван Нікіфаравічам.

Іван Нікіфаравіч Барсукоў высокі энэргічны мужчына.

На голеным твары прабіваецца сівою шчоткаю барада.

З надворнага выгляду ён хутчэй падобны да ангельца, як да беларуса.

На сіняй кашулі Іван Нікіфаравіча невялічкі значок:

— ЧЛЕН ОБЩЕСТВА ПОЛИТ. КАТОРЖАН.

Я гляджу на гэты значок і радасна ўсьміхаюся.

Бо ячшэ ноччу, калі варушыліся гэтыя нястомныя сілуэты, калі я чуў толькі словы і ня бачыў саміх людзей, я думаў, што гэтыя нястомныя людзі павінны быць бальшавікамі.

Я думаю, што сэрца, якое так ярка гарыць, павінна біцца ў грудзёх загартаваных людзей.

І яшчэ я падумаў,—што мы павінны больш уважліва даглядаць гэтыя сэрцы.



**ГЕРЦЫК Л.**—Рабочы токар, лепшы ўдарнік Менскай шчотачнай ф-кі, вынашоў машыну для стаўкі на галоўку конволасу. Гэта машына па папярэднім вылікам павінна даць прыблізна да 10.000 руб. эканоміі ў год.



**КАНСТАНЦІНАЎСКІ МЭТАЛУРГІЧНЫ ЗАВОД** (Данбас)

# Крушэньне рэнегатаў

Пʼеса ў 2-х дзеях
УЛ. СТЭЛЬМАХА

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

1. Шаф—стары рабочы, соцыял-дэмократ.
2. Карл—сын яго—комсамолец.
3. Маргарыта—маленькая дачка Шафа, 9—10 год.
4. Франц—рабочы, соцыял-дэмократ.
5. Гэнрых—піонэр.
6. Луін
7. Курц } Член партыі комітэту соцыял-дэмократаў.
8. Гольцман
9. Август—рабочы, соцыял-дэмократ.
10. Макс
11. Паўль } Члены паркомітэту КП(б)Г
12. Грэдхен—комсамолка.
13. Капіталіст.

Рабочыя, поліцыя.

ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Малюнак першы.

(Вечар. Кватэра рабочага Шафа. Шаф сядзіць і думае. Ля яго стаіць маленькая дачка Маргарыта. Раптам стук. Уваходзіць Карл. Дзея адбываецца ў сучаснай Германіі).

Карл. Добры вечар, тата.

Шаф. Добры вечар, Карл.

Маргарыта. Тата, татачка... Карл прышоў... (*Падбягае да Карла*). Добры вецар, Карл...

Карл. Добры вечар, Маргарытка.

Маргарыта. Булацку мне прынёс?

Карл. Не, Маргарытка.

Маргарытка. А хлебца?

Карл. І хлебка не.

Маргарыта. Цаму прынёс?

Карл. Грошай ня было ў мяне купіць...

Маргарыта. А цаму ня было?

Карл. Таму, што я беспрацоўны.

Маргарыта. Беспрацоўны? А цаму беспрацоўны?

Карл. Таму, што крызіс, ад якога буржуі зачыняюць фабрыкі і выкідаюць на вуліцу рабочых.



ГРУПА ТРАМАЎЦАЎ

Маргарыта. А-а-а крызіс, беспрацоўны. А цаму, цаму... А цаму ты нацаваць ня прыходзіў? Дзе ты хадзіў тры дні?..

Карл. Я прыходзіў, Маргарытка.

Маргарыта. Прыходзіў? А цаму-з я цябе ня баціла?

Карл. Бо ты спала, калі я прыходзіў.

Маргарыта. Лэзс. Я ўцора цакала да ноцы, а цябе ня было.

Карл. Быў.

Маргарыта. Не, ня было.

Карл. А вось быў.

Маргарыта. Ня было, ня было, ня было...

Карл. Быў, быў, быў...

Маргарыта (*праз сьлёзы*). Татацка, скажэце, каб Карл сказаў „ня было".

Шаф. Карл ўжо паўгода, як ня слухае свайго бацьку.

Маргарыта. Дык скажыце, каб ён паслухаў...

Шаф. Перастань, Маргарыта, табе пара ўжо спаць. Такія дзеці, як ты, даўно сьпяць.

(*Маргарыта пашла спаць. Паўза*).

Маргарыта (*з ложку*) А ўсё-ж такі ня было.

Шаф. Сядай, Карл (*Карл садзіцца*).

Карл. Тата. Я яшчэ раз рашыў пагутарыць з табою. Ты яшчэ не перадумаў, аб чым я табе казаў?

Шаф. А ты яшчэ не перадумаў, сынок, аб чым я табе казаў?

Карл. Ну, што-ж... Значыць пойдам рознымі шляхамі.

Шаф. Як бачыш (*паўза*).

Карл (*раптоўна*). Тата... Але я не хачу, каб ты, прапрацаваўшы трыццаць год на заводзе пана Ландэцкага, быў здраднікам свае клясы, сваіх дзяцей...

Шаф. Ты што, звар'яцеў, Карл?.. Я-ж цябе гадаваў 20 год, я-ж цябе вучыў і раптам я твой здраднік. О, Карл, Карл, апамятайся, што ты гаворыш?!.

Карл. Ня ты, татачка. А твая партыя соцыял-дэмократаў, якая нанялася на службу ў буржуазіі, якая зьдзірае апошнюю скуру з пролетарыяту для буржуазіі, якая адбірае ў рабочага апошнюю скарынку хлеба і запівае яе іх кроўю...

Шаф. Мы пʼем кроў рабочых?.. Ха-ха-ха. А хто патрабуе ўзброенага паўстаньня? Мы ці вы?—Вы. Хто заклікае раліваць кроў рабочых на дэмонстрацыях?—Вы...

Карл. А хто праліваe гэту кроў на дэмонстрацыях?.. Чые поліцэйскія стралялі ўчора ў беспрацоўных дэмонстрантаў?.. Чые поліцэйскія забілі ўчора 5 рабочых у Кэльні?..

Шаф. Гэта не па віне нашай партыі.

Карл. Але пры ўдзеле вашай партыі. Пры ўдзеле вашых цэргібеляў, зэверынгаў, вэльсаў. Так, мы, праліваем кроў рабочых, але мы праліваем яе для таго, каб не паміралі з голаду іх дзеці, жонкі... Каб жыць вольна, сьветла, як у СССР.

Шаф. Мы бяз людзкой крыві, без барбарскага руйнаваньня прыдзем да сьветлага жыцьця ўсяго чалавецтва...

Карл. Разумныя капіталістыя гавораць вам гэтыя казкі для таго, каб ехаць далей на шыі рабочых. А дурні альбо штрэйкбрэхэры слухаюць іх. Няўжо вы думаеце, што капіталісты самі палезуць у магілу бяз бойкі?..

Шаф. Гэта я, значыць, дурань альбо штрэйкбрэхэр?

Карл. Хто верыць гэтаму, той дурань альбо штрэйкбрэхер.

Шаф. Выгадаваў сыночка на сваю галаву, няма чаго казаць.

Карл. А я думаў, што ты яшчэ, тата, зразумееш сваю памылку, выкінеш здрадніцкі туман з тваёй галавы, якім акутала цябе твая партыя, перастанеш быць здраднікам сваіх таварышоў... сваіх дзяцей... А ты...

Шаф. Досыць, даволі. Я не дазволю больш зьдзеквацца над сабой. Нам не аб чым больш гаварыць з табой, мой сын.

Карл. Ну што-ж... (*Карл яшчэ хацеў нешта сказаць свайму бацьку, але голас яго абарваўся і заглох... Паўза. Карл пайшоў і затрымаўся*).

Маргарыта. Тата, татацка... Я ня пусцу Карла. (*Кідаецца да Карла*). Ня пусцу, ня пусцу... (*Карл абняў Маргарыту. Раптам вочы яго спаткаліся з бацьнам. Шаф схамянуўся і скамянеў. Карл таксама*).

Маргарыта. Я хацу сёньня з табой спаць, а заўтра раненька мы зноў з табой пойдзем да піонэраў. (*Карл вышаў*). Ну, што-ж гэта такое? І есьці мне нічога ня прынёс і спаць не захацеў са мной?..

(*ЗАСЛОНА*)

Малюнак другі.

(Парткомітэт соцыял-дэмократаў. За сталом сядзіць Блюмэнаў, Гольцман, непадалёка ад іх Шаф. Курц працягвае размову з Францам).

Франц. Будзь праклята, Курц, наша партыя назаўсёды, якая паступіла на службу буржуазіі!

Курц. Ты звар'яцеў, мой добры Франц. Іншых слоў я для цябе не знаходжу. Апамятайся, што ты гаворыш? Ты-ж стары баец. Твае валасы пасівелі ў шэрагах нашай партыі. І раптам...

Франц. Так, Курц, я стары. Але мяне састарылі апошнія гады мукі, раздум'я.

Франц. Я шмат думаў аб сваім жыцьці і пераканаўся, што толькі комуністы сапраўды змагаюцца за справу рабочае клясы...



МАЛАЦЬБА ПРЫ ДАПАМОЗЕ ЭЛЕКТРАМАТОРУ

# Постаць заутрага

Верш
АЛЕСЯ ПРУДНІКАВА

Прайшоў мой
за працаю
дзень лёгкакрылы,
Лістамі дубовымі
звонка
адшастаў;

Лёг сьлед
на пяску
яго,
Як мімікрыя
Раскубанай дзюбай,
Казюлькі
на часткі...

***

Выходжу на вуліцу
Роўна,
Бяз стомы,
Здалёку сьмяецца мне
даль асакою...

І кліча мяне
бяз'языкаю мовай,
І радасьцю
творчаю
мой
пакоік...

Прачынаецца
Юнацтва бурлівая песьня.
Пад цяжкім
здабыткам
Жыцьця і тварэньня...
Закоціцца сонца
на ноч

за ўзьлесьсе
І месяц на ўсходзе
зьянацку
сустрэнеш.

Тады—
Павявае з дарог
Не маўклівых,
Дзе вёсен пакосы
Ляжаць
у лагчынах,
высокім ўраджаем
колгасаўскай
нівы
І казачнай песьняй
вясёлай дзяўчыны.

***

Саджуся на лаўку
І слухаю доўга,

Як песьня
ў дуброве
паціху зьнікае

Яна свайго любага
і маладога
Пад месяцам ясным
гукае,
гукае!

Гады адышлі тыя
песень
тужлівых,
Аб грані работ
іх разьбіліся
тоны...

. . . . . . . . . . .

Высокім ўраджаем
колгасаўскай нівы
Павеяла з поля,
ка мне
залатога!

І ў веяні сіняй
вячэрніх туманаў

Я бачу—
магутную
заўтрага постаць:
Яна—
устае
над старога
курганам

Нязьмерна
Высокага
Дужага
Узросту!

але зныя рукі,
між пальцаў калосьсе,
Глядзіць яна ў неба
вачыма выразна,

Аж месяц ад сполаху
моўчкі затросься—
за сінь-а іянам
арбіты чураўся.

Такая магутная
постаць сягоньня
Паўстала
у ядраны вечар,
у вечар палярны...

Я ноч навылёт
прастаяўшы на гонях,
усё грэўся ў яе
крывяных
капілярах.

Жалезныя рукі,
між пальцаў—
калосьсе:—

Дасьпелі гады
нашых
творчых
уздымаў...

Я—
рад,
што ў надраньні
І мне давялося
Адчуць гэты вобраз
І ўгледзіць плады яго!

Ня шкода прынесьці
свой росквіт юнацкі
І шчырасьць пачуцьцяў—
краіне...

Я вышаў у вечар
з зарой
заручацца
І даць ёй прынесьці
пасьпешна пав'нен—

У вокны вякоў
я сваімі
рукамі
Прасуну
Пачуцьцяў гарачых
паходню,
няхай яны грэюцца
ў тысячах камэр
сэрдэц
чалавечых
паўночы
І
поўдню!

Часы залатыя!
Вось гэта—
Гісторыя:
Залітая—
сонцам
работай
напружанай...

... Пээты!
Сябры!
З палявымі прасторамі
Хай песьні жалезныя нашы
падружацца!

Дасьпела зялёнае
іх калосьсе
ў кватэры душы маёй...
. . . . . . . . .
Дні маладыя!

Я—
рад,
што ў надраньні
І мне давялося
адчуць гэты вобраз,
Угледзіць плады яго!



# ЗА вялікае МАСТАЦТВА бальшавізму!














**Першы ўсесаюзны зьезд польскіх пролетарскіх пісьменьнікаў**

Ўверсе зьлева направа: СТАНДЭ; прэзыдыум зьезду, сядзяць: БРУНО ЯСЕНСКІ, КАВАЛЕНКА (адказны сакратар ВОАПП), ПРЫНЦ (рэдактар „ОРКІ"), МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ СЬВІШЧ, МЫСЬЛІНСКІ. Уверсе справа БРУНО ЯСЕНСКІ Ніз: група ўдарнікаў заводу „Комунар" вітае зьезд. ДУНЕЦ і ІЗІ ХАРЫК. Група беларускіх пісьменьнікаў разам са СТАНДЭ. Сядзяць: КРАПІВА, ЛЫНЬКОЎ, СТАНДЭ, МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ, АКСЕЛЬРОД. Стаяць: АСТАПЕНКА, ВАЛ. МАРАКОЎ, АНАТОЛЬ ВОЛЬНЫ, ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

ФОТО САЛАВЕЙЧЫКА І КАГАНА

# Падарожжа

Аповесьць Марыі Кальтофэн

Малюнкі Ўл. Станковіча

Заглохла пялёханьне і жмаканьне ў карыце. Жонка выкруціла падраны ручнік і кінула яго ў лаханку. Муж сядзеў ля стала, абапёршыся на локці і адвольна вярцеў між пальцаў ліст — першае паведамленьне ад Тыля Франца з Амэрыкі. Ён пераехаў туды амаль чатыры месяцы назад і атрымаў зараз работу. „Тут ёсьць яшчэ што рабіць“, пісаў Франц, „калі ты хочаш, прыяжджай. я выклапачу табе грамадзянства. У Германіі ты ж не атрымаеш ніякай работы...“

Муж па цішыні, што апанавала зараз пакой, адчу на сабе погляд жонкі. „Проста галава ідзе кругом ды навокал,“ пачаў ён, „як ты думаеш, што я павінен яму напісаць?“ Жонка ўздыхнула. „Калі-б жа ведаць, што ты атрымаеш тут работу...“ Ён безнадзейна пакруціў галавою: „Тут—і работа? Тут, дзе запас беспрацоўных робіцца штодня большым. Не, тут я буду мабыць гуляць да самага канца майго жыцьця“ „Так. так,— але падумай толькі, гэта-ж туды так далёка, і апроч таго ўсё-ж ня ведаеш“... Муж некалькі разоў старанна складваў і зноў разгортваў ліст.

„Праўда, яно-ж ня ведаеш“, пачаў ён зноў, „але калі падумаеш — чатыры месяцы як там і ўжо работа. Чаму павінен Франц мець шчасьце толькі адзін?“

Жонка зноў зьвярнулася да карыта.

„Ты павінен-бы быў спачатку паехаць адзін“, сказала яна і пачала намыльваць палатнянае прасьціradла.

Муж падняўся, падышоў да вакна, у якім пабачыў коміны суседніх дамоў.

„Вось у гэтым-жа ўся справа“, адказаў ён ледзь чутна.

Ён доўга разглядаў закапцелы сьнег, які, як прадзіраўленае бруднае прасьціradла, пакрываў зямлю, дрэвы, дахі. Раптам ён пачаў хадзіць з кута ў кут: ад вакна да пліты і ад пліты да вакна. Ён лічыў на пальцах, нібы дзіця.



... І вось таму я згубіў працу...

„Чатыры, пяць месяцаў, найбольш шэсьць—найпазьней праз шэсьць месяцаў ты змагла-б перабрацца з дзецьмі, калі ўсё пойдзе добра...

Жонка хісталася.

„Так, калі-б ты, прынамсі, ведаў...“

Яны зноў змоўклі. Цішыню толькі парушала плёханьне і жмаканьне ў карыце ды тупат хады. Муж раптам спыніўся і ляпнуў сябе па ілбе.

— Я яму напішу, сказаў ён рашуча, „хай ён шле грамадзянства—а да таго часу застаецца яшчэ шмат часу на тое, каб разважаць...“

„Можа гэта і лепей...“ згадзілася жонка.

Сьпяшаючыся, нібы ён хацеў сам сябе абагнаць, шукаў ён пісьмовыя прылады і паперу. Але, ужо трымаючы пяро ў руках, ён не рашаўся пісаць.

„Але як ты пражывеш гэты час адна з дзяцьмі?“

Яна адважна засьмяялася.

„Аб гэтым ты можаш не клапаціцца. Дзеці ўжо з большага выкараскаліся. Эльза вучыцца, Эрыху засталося вучыцца ўсяго толькі адзін год.

Яна моцным штуршком паставіла ванну на ракавіну, вада, бягучы і булькаючы, палілася па трубах.

„Шмат як вучні яны не атрымліваюць“, працягвала яна далей, „але гэта ўсё лепш, чымся нічога, і яшчэ-ж да таго таксама крыху дастаю прыслужваньнем“.

„Калі ты думаеш...“ прамармытаў ён.

Яна расьсьмяялася, нібы ўсё ўжо было так, як гэта ёй жадалася.

„Толькі ня падаць духам, справа ўжо зробіцца“.

Калі красавікоўскі дождж змыў рэшткі сьнегу з дахаў, справа пасунулася ўжо досыць далёка, на пашарпанай чырвонай плісавай коўдры ляжаў пашпарт і білет. Яму шмат дасталася, пакуль ён не сабраў грошы на падарожжа. Бадай што ледзь ня ўсё разьбілася з гэтай прычыны. Але нарэшце ўсё-ж такі ўдалося. Неяк няёмка стаяў дарожны кошык паміж сталом і шафай для вопраткі.

Эрых і Эльза разьвіталіся з бацькам у часе перапынку. Яны былі ўпэўнены і дужа не бядавалі па ад'езьдзе бацькі.

„Да пабачэньня ў Амэрыцы“, сьмяяўся Эрых яшчэ ў дзьвярох.

Бацьку ня ішоў сьмех да сэрца, ён доўга прыслухоўваўся да вёрткіх крокаў, якія памалу сьціхалі па скрыпучых сходах.

Матка чагосьці круцілася ля шафы і ціханька выцірала няпрошаныя сьлёзы. Здавалася, што сівыя ніткі валос неяк павялічыліся ў колькасьці на працягу апошніх тыдняў. Фрыда чымсьці займалася на кухні. Гадзіньнік біў хрыпла і сьпяшаючыся. Фрыда глянула на гадзіньнік.

„Мы павінны ісьці, бо інакш тата спозьніцца на цягнік“.

Быў шэры, суровы дзень. Вуліцы блішчэлі ад макраты. Вада пырскала з-пад шын аўто. Фрыда балбытала бесклапотна і задаволена.

Вось ужо яны і на пэроне, вось і цягнік.

Увесь вакзал быў поўны гулу, які разьлятаўся водгульлем, нібы грымоты. Пахла душным чадам і жалезам. Дым ад паравоза клубіўся хмарамі пад шкляным дахам. шукаючы ўверсе сабе выйсьця і ў канцы даху радасна раскідваўся на свабоду. Стрэлкі вялікага гадзіньніка бессардэчна скакалі ад мінуты да мінуты. Ён асьцярожна ўзяў рукі жонкі.

„Як ты выпутаешся з даўгамі?“—спытаў ён,

Яна не прабавала засьмяяцца. „Вось глупства, не клапаціся...“ яе вусны здрыганул іся. „Я прышлю грошы, як толькі ўсё пойдзе. Найпазьней праз шэсьць месяцаў“.

„Садзецеся, калі ласка, садзецеся“. Кондуктары ішлі ўздоўж цягніка.

„Так. значыцца, хай шанцуе“. Ён пашоў у вагон. яна ледзь стрымлівалася ад сьлёз. Фрыда дрыжэла ад узбуджэньня,

„Хутчэй, тата. А то яшчэ застанешся“.

Ён стаў ля акна і бездапаможна сьмяяўся, І позірк яго засьцілалі вільготныя сьлёзы. Ледзь прыкметна крануўся цягнік і, ціха пагрымваючы, пакінуў вакзал. Вузкі тужлівы твар у акне зьменшыўся, затуман ўшыся. зьнік; так. зьнік. Толькі зялёна-чырвоныя агеньчыкі некаторы час яшчэ зіхацелі там, куды зьнік ахутаны дымам цягнік.

Праз два дні прышла паштоўка з Гамбургу, чатыры тыдні пазьней першы ліст з Нью-Ёрку.

„Дабраўся добра“, пісаў ён. „Тыле Франц зьмясьціў мяне ў сваіх знаёмых. Ён ва ўсім ідзе мне насустрач, я спадзяюся, што хутка справа выгарыць...“ і пасьля трох непакойных месяцаў поўных надзей, якія то ўзьнімаліся, то лопаліся, як мыльныя пузыры, прышла нарэшце доўгачаканая вестка:

„Мае, любыя, вы зьдзівіцеся, як давядаецеся, як мне шанцуе. Я знайшоў работу ў маленькім аўтомобільным прадпрыемстве. Прадпрыемцу, які дарэчы кажучы, вельмі спагадлівы чалавек, патрэбны на вытворчасьці чалавек, якому-б можна было даручыць справу. Калі я яму сказаў, што я хачу вас перавезьці да сябе, ён лакляраваў мне пазычыць грошы вам на дарогу. Я змагу гэта потым усё адпрацаваць. Але спачатку я павінен папрацаваць, каб ён пабачыў, ці здольны я хлопец. Але аб гэтым я ня турбуюся, бо працаваць я ўмею. Значыцца, я цьвёрда лічу, што найбольш праз два месяцы вы будзеце тут. Тыле Франц бедны хлопец. зараз застаўся без работы, я дапамагаю яму, чым магу. Тут таксама шмат галечы, але чалавек павінен калі-небудзь-жа мець шчасьце..“

Неўзабаве пасьля гэтага ўпяршыню пазваніў лістаносец, які прынёс грошы.

Матка ўздыхнула, яе цёмныя вочы зрабіліся сьвятлейшымі і тонкія складкі на носе і лобе выраўняліся.

Ён мог на першы час прысылаць вельмі мала грошай, але ім здавалася, што гэта ўадзвычай многа. Яны вырашалі нават аднойчы адзначыць гэтыя радасныя навіны. Матка сьпякла вельмі вялікі пірог і запрасіла да сябе дзьвох сяброўак: радасьць павінна была быць як сьлед адсьвяткавана.

Калі срэбраныя позьнявосенскія праменьні высока ляцелі праз дахі і ў гарадзкім парку жаўцелі і чырванелі лісьця арэў, атрымаўся ліст ад бацькі, у якім ён пісаў, каб мы да студзеня падрыхтаваліся да падарожжа: патрэбныя паперы яны атрымаюць у даведачным бюро, Гамбургска-амэрыканскага параходнага акцыянэрнага таварыства—Гапат. Гэта была бясконцая беганіна за паперамі. Але што гэта значыла? Хутка ўсё гэта мінецца. Яшчэ пара тыдняў і яны будуць мець сьвятле памяшканьне ў ніжнім паверсе з белымі кісейнымі фіранкамі і новай сьветлай мэбляй. Таксама будзе там і добрая кухня— ня вільготная і ня дымная, а таксама маленькі садочак ля дому...

Зноў надыйшла зіма. Незадоўга да каляд паперы былі пасланы ў бюро. У студзені паштоўкай яна была паклікана да Гапагу. З заміраньнем сэрца стаяла яна ў канторы, яна адчувала сябе слабай, яе каленкі дрыжэлі. Дайшла яе чарга. Малады чалавек матнуў валасамі, глянуў на яе.

„Вось і вы,“ —сказаў ён і пачаў ліcтаць нейкую папку. „Так, ваша хадайніцтва адхілена.“

Яна пабялела.

„Адхілена?“.

Чорныя кругі танцавалі ў яе вачох. Аднекуль здалёк несьліся словы маладога чалавека.

„Новы закон ад 1 студзеня...“

Потым яна нічога больш ня помніла, бо страціла прытомнасьць. Праз гадзіну самотна цягнулася дамоў. Сьвежы вецер падбадзёрыў яе. У халодным ветры, які кідаў шматкі сьнегу ў яе твар, абудзілася моц яе волі.

„Два гады“, прастагнала яна. Але ўпартая прагнасьць жыцьця не пакінула яе. Дома яна напісала ліст свайму мужу. Літары як і заўсёды сталі роўненька і чысьценька. Бядаваць? Навошта? Яна ўсяроўна павінна трымацца. Павінна.

Вясна была недалёка, калі раптам спыніліся лісты і пераводы на грошы — як адрэзана. Яна сьпярша зьдзівілася. Потым непакой перайшоў у жах, калі яе апошні ліст быў зьвернуты „за неадшуканьнем адрасату“. Толькі цяпер яна ўспомніла на тое, што яна нават ня ведала ні адрасу таго прадпрыемства, дзе працаваў яе муж, ні адрасу Тыле.

„Што можна думаць? Ці не памёр ён?“ разважала яна.

Дзеці прыціхлі і засумавалі.

Эрых атрымаў 31 сакавіка паведамленьне, што фірма набірае новых вучняў...

Валасы маткі пашарэлі, твар асунуўся, складкі ля роту і носу штодня рабіліся глыбейшымі.


... Бясконцай чаргой ішлі жабракі, выкінутыя на вуліцу...

Аднаго дня яна ўспомніла, што якраз ужо год з таго часу, як бацька пераехаў за вялікае мора.

„Адзін год,“ падумала яна і не магла ўстрымацца, каб не заплакаць. Раптам званок абудзіў яе. „Хто там мог быць? Паштальён з пераводам? Бадай — мабыць адзін з суседзяў.“ Яна пайшла да дзьвярэй. У вушох застукалі яшчэ нязнаныя раней малаткі.

„Так ніколі раней са мной ня было“, падумала яна, „гэты год падрыхтаваў мяне да магілы... Яна адамкнула. На сходах стаяў чалавек, абадраны, з бруднай вялікай барадой. Ён бездапаможна засьмяяўся.“ Густаў. Ён заўважыў, што яна захісталася і падхапіў яе.

„Так, так. гэта я...“

Яна схапіла яго за руку і амаль крыкнула: „Мой божа...“

Ён, сьмяючыся паглядаў за сваёй скалечанай правай рукой. „Чатырох пальцаў як ня было. Няшчасны выпадак на вытворчасьці. Праз яго я страціў работу ..“

„Але-ж ты пісаў, што твой прадпрыемца спагадлівы чалавек“...

— „Праўда, спагадлівы, але пакуль ты можаш працаваць.

„Ты-ж галодны.“

Яна ўжо клапацілася каля пліты.

„Хіба я не гаварыла тады. Жыць так нельга.

Тут у гэтай няшчаснай Германіі і ў далёкай Амэрыцы адно: зьдзекі, зьдзекі. зьдзекі... Я састарэлася за гэты час, спакутвалася...

Ён абапёрся на стол.

„Чорт яго ведае, я-ж думаў, што я расстараюся. Але кожны ў паасобку будзе размолаты ў гэтай машыне як зернятка, адзін гэта амаль нічога; патрэбна шмат..“

Ён глянуў у акно, дзе па-за асьветленым сонцам дахамі блішчэла шоўкава-блакітнае неба. Вясна пачыналася.



... І так да пабачэньня...

(*Пераклад з нямецкага*).



**За мэханізацыю сельскай гаспадаркі** **Уборка ўраджаю.**

# Клін

НАРЫС
Я. ЗАЗЕКІ

I

... Праз тры дні, па даручэньні комсамольскай ячэйкі, на сходзе колгасьнікаў комсамолец Сьвірыдаў рабіў інформацыю аб зьдзельшчыне.

Інформацыя была кароткай, колгасьнікі сядзелі ціха, пільна пазіралі, сачылі за кожным гэстам прамоўцы.

— Таварышы, колгасьнікі, зьдзельшчына зьяўляецца самай правільнай формай у організацыі працы. Пры зьдзельшчыне даходнасьць колгасьніка залежыць ад колькасьці і якасьці затрачанай працы. Кожны колгасьнік павінен устанавіць сваю цьвёрдую норму выпрацоўкі, выходзячы з вопыту другіх колгасаў...—

Сьвірыдаў гаварыў роўна, не гарачыўся, думка ўспрымалася колгасьнікамі лёгка.

— Уся праца павінна расцэньвацца ў працаднях. Кожны колгасьнік павінен раней ведаць як будзе расцэньвацца тая ці іншая праца. Загэтым расцэнкі мы будзем абгаварваць на сходах. Брыгадзірам пры зьдзельнай працы патрэбна весьці дакладны вучот. Вучот дае мажлівасьць правільна разьмеркаваць даход на колькасьць і на якасьць затрачанай працы колгасьнікам

Калі інформацыя была скончана, старшыня сходу зьвярнуўся:

— Пытаньні якія будуць?

Адразу па кутках зашапталіся.

— Давайце мужчыны, а то мы зараз маўчым, а потым будзем вышаўшы шаптацца.

— Што тут гаварыць,—басам завёл Пятроўскі,—Ведаем гэту зьдзельшчыну, паслухайце, што ў Маяку кажуць, мала гультаёў, давайце наробім больш, насадзім людзей, каб яны нам мералі а потым падлічвалі, ад пан ў як відаць век не адкапаешся.—Скончыўшы Пятроўскі глянуў сярдзіта на Сьвірыдава, буркнуў сабе пад нос і пацісnуўся да парога.

— Я хачу сказаць — зьвярнулася да старшыні комсамолка Наста.

— Мужчынкі, зьдзельшчына нам дапаможа выйсьці з цяжкога становішча,—з надрывам гаварыла яна.—А то ў нашым колгасе водзіцца так, хто гультайнічае ў цэньку, хто зусім на працу ня ідзе, возьмем прыкладам жонку Пятроўскага, аднаго дня ня вышла сеяць бульбу. А яшчэ многа такіх ёсьць, якія працаваць ня хочуць. А калі ўвядзем зьдзельшчыну, будзем бачыць тады, хто гультай.

— Праўду яна гаворыць—пачуліся густа галасы.

— Таварышы, я толькі сяджу ды слухаю. Плётку вы самі сабе майструеце—устрывожана падхапіўся Лазарэвіч,—што-ж гэта колгас фабрыка, што кожны дзень будзем стаяць пры адных станках, сёньня зранку я паеду араць, прааараў да поўдня, а там дождж. Надвячорак каля будынку працаваў, дык мне толькі паўдня будуць лічыць, а астатні час дня я не працаваў выходзіць,

— Я ня ведаю чаго Лазарэвіч крычыць, ці ён не разабраўся, альбо ня хоча разабрацца,— выступіў досыць ужо паджылы мужчына колгасьнік Мірон.—Нам падзякаваць трэба комсамольскай ячэйцы, што яна сёньня аб гэтым паставіла пытаньне. Гэта-ж я думаю зразумела, калі прыкладам кажучы Лазарэвіч паўдня араў, норма за дзень узараць тры чвэрці дзесяціны, а ён узараў паўдзесяціны, дык яму пішацца тры чвэрці дня, а калі ён па абедзе рабіў другую работу, дык яму таксама запішуць.

— Скласьці сёньня брыгаду аратых,—прапанаваў комсамолец Валер

— Згодны,—падхапіў сход.

Калі разыходзіліся, Мірона на вуліцы спаткаў Улас. Ён ня сьмела падышоў да яго, твар Уласа быў змораны.

— Мірон я да цябе,—дрыжачым голасам зьвярнуўся Улас.

— А што, браток, скажаш?

— Бяда Мірочка здарылася, будзь суседам, дапамажы.—

— Якая бяда? усхвалявана запытаў Мірон.

— Сёньня, вось нядаўна жлукцячы бялізну дачка нанет апарыла нагу, ці ня можна ўзяць у вас калёсы, завезьці яе ў Бя эзан да доктара

— Чаму не, вазьмі калёсы, каня вазьмі. а то на сваёй падле суткі цягнуцца будзеш. Вось заўхоз, скажы яму,— паказаў Мірон на маладога хлапца.

— Дзякаваць. Міронка.

Праз нядоўгі час калёсы сьпяшаючыся ўздрыгвалі па няглад-кай дарозе, а Улас сьпяшаўся да хаты.

II

З самага ранку складзеная на сходзе колгасьнікаў брыгада ў колькасьці васьмі парак выехала на поле. Раней як распачаць працу, брыгадзір Сьвірыдаў адмераў удоўж 360 сажон і ў шыркі 240.

— Вось браткі норма на кожнага па тры чвэрткі дзесяціны, сёньня нам трэба ўзараць гэты кусок—зьвярнуўся ён да аратых.

— Многа, браткі, будзе—падцягваючы карацей падстромкі заўважыў Антось.

— Гэта так толькі здаецца, бо ў адным куску, а разьбі яго на восем, дык па сколькі тут давядзецца — паглядзеў ўздоўж і папярок комсамолец Алесь

— Склад я думаю зрабіць у гэтай баразьне, а тыя загоны ўроскідку прыкідаем—заварачваючы коняй на першую баразну пачаў Сьвірыдаў.

— Давайце з гэтай—ззаду пачуўся голас.

Пашлі роўна, нібы адзін за адным, памахваючы галовамі, коні.

— Глядзі там, Павал, а то ў патаемнік нарогам залепіш,— крыкнуў Мікола свайму задняму суседу.

— Бачу, брат,—падняўшы плуг адказаў Павал—гэта якраз на Мікітавай паласе, ты думаеш мала ён яму нарогаў паламаў?

А вецер мяккі, цёплы, рахманы такі, плыве, зносіць у бок аваднёў, путаецца ў грывах коняй, сушыць на-бела вільготныя скіды воранай зямлі.

Восем баразён ёсьць—павaрачваючы коняй на адным месцы ўзьнятым голасам загаварыў да аратых Сьвірыдаў.

Восем парак завіхаючым крокам хадзілі уздоўж поля. Восем чорных вільготных скіб, нібы расчэсаны радкамі чарнілі пасьля кожнага разу.

Добры дзень!—Калі пад'яжджалі да дарогі лагодна-мяккім тонам спаткаў араты Улас.

— Ну як ваша Арына—першым запытаў Сьвірыдаў.

— А дзякаваць богу дарма, доктар учора перавязку зрабіў, даў масьці некай жоўтай. Сёньня, калі ехалі дадому яна ўжо не стагнала—здаволена адказаў Улас.

— Калі я адганяў каня, дык Мірон казаў, што вы сёньня зьдзельна працуеце.

— Але, брат, просты рахунак, колькі я зраблю, столькі і мець буду.

— Праўда, брат, менш гультаёў будзе, кожны будзе старацца рабіць як можа. А тое-ж усе бачылі, як працаваў у колгасе Вінцэся Людвікаў, або Тамаш Захараў. Вясною каля нас араў Вінцэсь пад бульбу, дык праго іць баразну, а потым пэўна з паўгадзіны ляжыць на ўмежку. Як гэта і так колгас хлеб і да хлеба мае? Мяне Мірон вадзіў у сьвіронак, дык вы яшчэ малайцы, у вас мукі жытняй з гакам, да новага хопіць. Сала ёсьць, масла дзьве дзежачкі. Сьвіней 14 як ліноў корміцца— дзівіўся разводзячы рукамі Улас.

Сьвірыдаў гэты час прабаваў ключом ці не адышлі ў плугох гайкі. Улас нерашуча паглядзеў на Сьвірыдава, потым падышоў да яго і нейкім ціхім голасам запытаў,—а мой клін таксама араць будзеце?

— Потым, ён пойдзе адразу, трактарам узарэцца.

— Вы мусіць яго шкадуеце?—жартліва задаў пытаньне малады хлапец.

— Не, раней шкадаваў, бо кусок добры, самы лепшы ён у мяне. Пшаніца як дым на ём расла, я ў мінулым годзе гною добра даў, бульба як галкі была, адна ў адну проста. Добры клін, але-ж колгас мусіў яго забраць, бо ён як скула пасярод вашага поля,—удумана гаварыў Улас.

— Ты, Улас, разам з намі сабіраўся ўступаць у колгас, я нават помню ў каляды заяву табе быў напісаў,—напомніў Павал.

— Думаў, але-ж суседзяў паслухаў,—засароміўся Улас.

Вецер, надрываючы дзьмуў, паласкаліся зялёныя косы нізкіх пры дарозе бяроз.

— Ну! адсапліся, давай сівыя!—пакрыкваў на коня Сьвірыдаў.

Улас ішоў па дарозе, у яго галаве трымалася адна думка, што разам легчэй, лепш.

# Пра нашу профэсію

ВЕРШ
МАКСІМА ЛУЖАНІНА

На поэтаў
мы вышлі рана,
а ня шкодзіла-б
перш
пабыць —
мэліоратарамі,
грабарамі,
электратэхнікамі
барацьбы.
Ці пабыць раней
за манцёраў.
Чалавецкіх
нядужых
цел,
што
у балоце амбуляторый
аддаюць свае сілы
дзель.
Млявай цягліцы
дужасьць
зьвернеш,
і па шлунах
ударыць моц,
трэба ведаць,
як хворай нэрве
капітальны
зрабіць рэмонт.
Каб зваліла цябе —
ня утрыццаць.
Каб і ў семдзесят.
як юнак
Хочаш
сэрца
прымусіць
біцца?
Умей сказаць яму—
ачуняй.
Ці ў кабінах
лябараторый,
навучыся
знаходзіць
газ
і зялёныя сэматоры
прысьпявай
адчыніць у час.
Каб краіну
навылет
вызнаць
Кожны
вымацаць
кілёмэтр
каб
Амсьціслаў
Тураў
і
Вызна,
як сталіцы
маглі грымець.
Камандзірамі
труб
і
таек,
не паставіў
на сёньня
час...
Доля выгартавалася—
другая
і другі
за яе
адказ.
Трэба плуг
і багнэты выкуць,
але трэба й такое
умець,
каб
сэйсмографам
зроку і слыху
адшукаць
і зьнядужыць
сьмерць.
Мы ня плачам,
што век кароткі
і паставілі
за
закон:
Крокі першае
пяцігодкі
моцна
выразаць
на вяках.
І пакуль я
цяжкое слова
заганяў
у страфу
як клін
выархоўвалася
палова,
З ўраджаеў нашай
зямлі.
Непатрэбнае
і
пустое,
як
віхровы пыл
пад цягнік.
Толькі дужае
можа ўстояць
Каб адзначыць нашыя
дні.
Мы жылі —
каб дужаў намесьнік
Заваёўваючы прыплыў.
Мы рабілі
усё-ж ткі песьню,
колькі ўздужалі—
дык цяглі.
Хоць благія
былі поэты,
а падмурак зрабілі ім—
тым
хто жыў
адно гэта
лета
і ніякіх ня бачыў зім.



**Вызваляемся ад замежнай залежнасьці ў тэхніцы. На здымку новапабудаваны завод фэросплаваў, адзін з ліку „518“ пры дапамозе добрай арганізацыі і ўдарніцтва пушчаны ў эксплёатацыю да тэрміну.**

# Балоты дымяць

НАРЫС
УЛ. ЭЛЯ

I

Балоты зацягнуты хмызьнякамі, травою і мохам, месцамі паказваюць голую чорную зямлю. Калі прыгравае сонца, зям я сох е, трэскаецца. Кінь сернічку—задыміць, загарыцца зямля і балоты абернуцца ў пажарышча.

Каля Смалявіч паабапал чыгункі ляжыць больш 1 000 гект. балотнага чарназёму. Торф захаваны зелянінаю, лазою, маладым бярэзьнікам, алешчікам.

Балота за апошнія гады зьмянілася, і не сваім нутром, а паверхняй. Кавалак за кавалкам, настойлівай упартай работай людзі урываюць у балота зямлю. Карчуюць, спускаюць ваду, сушаць, узьнімаюць трактарам карэньні дзікай травы. Побач з балотам наліваецца залацістае жыта, зелянее пшаніца і красуе канюшына. Учарайшыя хмызьнякі адыйшлі, адступілі пад чалавечым націскам.

А далей, як акінуць вокам, яшчэ гаспадараць іменна яны, хмызьнякі. Распускае свае карэньні лаза, бярэзьнік і сям-там хвойнае дрэўца сваімі іголкамі прыкрывае імхі, што парасьлі на балоце. Зараз балота не наводзіць жаху на жыхароў і жывёлу сваёй тваньню, глыбокімі ямамі і правалінамі. Ямы абмялелі, канавы з іх высасалі ваду, праваліны пакінулі быць страшэннымі, бо яны больш не праваліны, а самыя звычайныя нізіны, якія, калі нельга перайсьці, можна абыйсьці, па сухіх мясцох.

Балота дыміць, але нявідаць агня і няма пажару... Дымяць і грымяць машыны з элеватарамі, шківамі, пасамі, прэсамі, ваганэткамі. Машыны ззаду за сабою пакідаюць 5–7-мэтравую шырынёю роўны канал, напоўнены вадою. Такія каналы—адзнака работы машын. дзесяткаў людзей. Ён вычэрпвае да дна торф і яго глыбіня часта перавышае 4—5 мэтраў. Элеватар высасаў торф, прэс перарабіў яго у роўныя цэглы, якімі заслана зараз вялікая балотная плошча.

Машына стала.

Стаіць сумнаю сярод балота, мочыць яе дождж, іржавеюць мэханізмы. Стаіць некалькі дзён. Яе наведваюць па некалькі раз у дзень дзесятнікі, торфмайстры, адміністратары, як хворага ў больніцы, але машына здаровая. Толькі павярнуць кола, напаіць матор нафтай, апрануць колы ў пасы—і машына задыміць, загрукае, сотні і тысячы цэгл торфу панясуць ваганэткі ў топкі фабрычных і заводзкіх машын. Але пусьціць нельга. Адміністратары прыводзяць людзей, якія глядзяць на машыну скоса, пазяхаючы, чэшуць патыліцу, жмурацца пад гарачым сонцам і павольна ўходзяць так, як прыйшлі.

# ШАХМАТЫ № 5

Пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

## Конкурсныя задачы

№ 9

Дэвіз „Піонэрская“



**Белыя:** Крb3, Фс4. Лb6, Ле8. Kh6, пп.: d3, f2, g3, g5 (9).

**Чорныя:** Кре5, Фс8, Се6, h2, Kf6, Kg7, пп.: c5, d6, f4 (9)

Мат у 2 хады

№ 10

Дэвіз „14-ы Кастрычнік“



**Белыя:** Кра6, Ла4, Ле8, Cb8, Cc8, Kd6, Kf3, пп.: f2, g2, h3 (10)

**Чорныя:** Kpf4, Фе4, Cd4, Kc3, пп.: d5, e2, f6 (7)

Мат у 2 хады

## Падрыхтоўчыя спаборніцтвы да VII Усесаюзнага шахматна-шашачнага зьезду

Па БССР праведзены наступныя спаборніцтвы.

1. Міжраённыя турніры па шахматам і шашкам у Віцебску.

Вынікі: па шахматам: 1) Падольны (Полацак) +5 з 6-ці, 2) майстар Сіліч +4 (Віцебск), 3 і 4) Жудро і Гейман (Віцебск) па +3½, далей Райненсон і Жыгіс (Віцебск) +2 і Шалаеў (Полацак) +1.

Па шашкам: 1) Зысерсон +6 з 6-ці! 2) Берлінкаў +4½ і 3) Храпуновіч +3½ усе з Віцебску, усім тром ігракам прысуджана 1-я ўсесаюзная катэгорыя.

**2) Міжраённыя спаборніцтвы ў Гомелі.**

Вынікі: а) па шахматам 1) Сташэўскі (Магілеў) +7 з 7-мі!! 2) Грыгор'еў (Гомель) +6, 3 і 4) Гейкер і Маневіч +4, 5) Фільмановіч +3½, 6) Бабіцкі +2½, 7) Федараў +1 і 8) Паўловіч +0. т. Грыгор'еву прысуджана 1-я ўсесаюзная катэгорыя.

б) Па шашкам: 1) майстар Гардон +7 з 7!!, 2) Красьніцкі (Магілеў) +4½, 3) Лабоўскі +4, 4) Юдашкін +3½, 5 і 6) Зэлічонак і Пэўзнэр +2, 7) Рыжоў +1½ і 8) Гінзбург +½. Т. т. Красьніцкаму, Лабоўскаму і Юдашкіну прысуджана 2-я ўсесаюзная катэгорыя. На паседжаньні шахматна-шашачнага сэктару ВСФКБел. пастаноўлена камандыраваць на ўсесаюзныя шахматна-шашачныя спаборніцтвы **па шахматам:** Падольнага (Полацак), Сіліча (Віцебск) і Сташэўскага (Магілеў). **Па шашкам:** Зысерсона і Берзінкова (Віцебск), Красьніцкага (Магілеў) і ня могшага прыняць удзелу ў спаборніцтвах Школьніка (Барысаў), кандыдатам залічыць Храпуновіча (Віцебск). Што датычыцца кандыдатаў ад Менску, то канчаткова гэта пытаньне вырашыцца пасьля заканчэньня шашачнага чэмпіянату.

Шахматны чэмпіянат Менску за 1931 г. закончыўся перамогай А. Касьперскага з рэзультатам +12½ з 14-ці, 2) Верасаў +11, 3) Мазэль +10, 4) Насьцюшонак +9½, 5) Камянецкі +5, 6) Зубец +4, 7) Кузьмінскі +3½ і 8) Сакалоўскі +0. Шашачны чэмпіянат заканчваецца ў лепшых шансах і бяз пройгрышаў майстар Гардон, Ліхадзееўскі і Эльля.

## Міжнародны шахматны турнір у Паўднёва-Славіі

На курорце Блэйд 23 жніўня пачаўся турнір; удзел прымаюць: сусьветны чэмпіён Алёхін, Асталош, Багалюбаў, Відмар, Кэждан, Кольле, Косьціч, Мароцы, Німцовіч, Пірк, Тартаковер, Флор, Шпільман і Штольц.

Гэтыя ігракі зьяўляюцца лепшымі ў буржуазных краінах; толькі адсутнічаюць Капаблянка (экс-чэмпіён) Эйвэ, Рубінштэйн і Султан-Хан.

Кожны з кожным будуць іграць па 2 партыі, турнір зацягнецца на паўтара месяца.

Ужо пасьля 9-га туру відавочна значная перавага чэмпіёну сьвету Алёхіна +8½ з 9-ці!, Шпільман +6, адстача на 2½ пункты, далей Відмар і Кэждан +5, Асталош, Багалюбоў і Штольц па +4½, Косьціч +4, Флор +3½, Мароцы, Німцовіч і Тартаковер па 3½, Кольле +3 і Пірк +2½.

ЦАНА 15 КАП.

1481

# БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

## СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ СЭКТАР

ТАВАРЫШЫ-КОЛГАСЬНІКІ,

ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:

| | | |
|---|---|---|
| Як арганізаваць працу ў ільнаводных колгасах | цена 15 | коп. |
| Рабочая програма па ўборцы лёну і канапель. | „ 5 | „ |
| Лён і канапля. (Зборнік) | „ 20 | „ |
| Меерсон.—Як правільна ўбіраць лён. | „ 10 | „ |
| Шатэрнік.—Культура лёну | „ 50 | „ |
| Сэлекцыя і культура лёну | „ 40 | „ |
| За пашырэньне плошчы і ўздым ураджайнасьці лёну і канапель. (Зборнік) | „ 10 | „ |
| За правільны колгасны ўлік. (Зборнік) | „ 12 | „ |
| Улік у колгасах. (Зборнік). | „ 20 | „ |
| Удалаў.—Вытворчыя нарады ў колгасах | „ 15 | „ |
| Парадак разьмеркаваньня даходаў | „ 2 | „ |
| Галенчанка.—Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю | „ 20 | „ |
| Комсамол за аўладаньне агро-тэхнікай. (Зборнік) | „ 32 | „ |
| Барацьба са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін | „ 95 | „ |
| Як жывецца ў комуне. (Зборнік). | „ 17 | „ |
| Герасімаў. — Аўладай тэхнікай колгаснай вытворчасьці. | „ 7 | „ |
| Галевіус.—За бальшавіцкую ўборку ўраджаю | „ 10 | „ |
| Нісьневіч. — Організавана правядзем 2-ю бальшавіцкую ўборачную кампанію | „ 10 | „ |
| Плятнер.—Зьдзельшчына ў колгасах | „ 17 | „ |
| Байкоў.—Кіраўніцтва ў колгасах | „ 20 | „ |
| Варкуноў. — Аб парадку скармліваньня сілосу | „ 2 | „ |
| Іскроў і др.—Выканаем плян па сілосу | „ 10 | „ |
| Кароткая інструкцыя па тэхніцы і сіласаваньні | „ 5 | „ |
| Розэнблюм. — Організацыя сіласаваньня ў колгасах | „ 15 | „ |
| Комсамол за сілос | „ 20 | „ |
| У паход за сілос | „ 15 | „ |
| Кукуруза на сілос | „ 10 | „ |
| Як захоўваць насеньне гародніны. (Зборнік). | „ 10 | „ |
| Аб адходніцтве з колгасаў. (Зборнік) | „ 10 | „ |

ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:

ДУМКІ АБ ПРАЧЫТАНЫХ КНІГАХ І ВАШЫХ ПАЖАДАНЬНЯХ ШЛІЦЕ Ў БДВ—С.-Г. СЭКТАР, БЯЗ МАРАК

Менск, Савецкая, 59.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1879. 12380 Галоўлітбел № 1031.